Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 зл. Для заграніцы ўдвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукована га залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 9. Вільня, Пятніца, 30-га студзеня 1925 г. Год I.

## Кожны беларус, які хоча вучыць сваіх дзетак у беларускай школе, павінен скласьці аб гэтым Інспэктару дэклярацыю (гэта значыць заяву).

## Найвялікшая крыуда.

Ніжэй мы падзем стацьцю аб тым, як польская дэмакратыя зьмяняла свае пагляды на нацыянальнае пытаньне—з таго мамэнту, калі *польскае* нацыянальнае пытаньне аказалася вырашаным у кірунку стварэньня незалежнае польскае дзяржавы, і панаваньне польскага народу над *„інародцамі“* было замацавана міжнародавымі актамі.

Прамаўляючы на вечы ў Варшаве, дэп. Прагер слушна прыпомніў, што беларускія дэпутаты і сэнатары, прыняўшы ўчасьце ў выбарах прэзыдэнта Войцеховскага і аддаўшы свае галасы за гэтага кандыдата польскае дэмакратыі,—выявілі гэтым сваю веру ў польскі дэмакратызм і жаданьне йсьці рука ў руку з польскай дэмакратыяй — дзеля супольнага змаганьня з чорнымі сіламі. І запраўды: кожнаму ясна, што, кідаючы свае галасы за сучаснага прэзыдэнта, дэпутаты „меншасьцяў“ далі іх, так-сказаць, *на крэдыт польскай дэмакратыі.* А як аддзякавала нам яна—гэная дэмакратыя?

Недастойны паступак былага прэм'ера ген. Сікорскага, прадстаўніка гэнае самае дэмакратычнае Польшчы, які, працягіваючы адну руку беларусам дзеля згоды, другой даваў знак распачаць самую непрымірымую барацьбу з імі,—вось адплата нашых даўжнікоў. За апошнія два гады ўсё беларускае арганізованае жыцьцё разьбіта так, што, каб ня нашы дэпутаты, дык некаму было-б і прамаўляць ад імя беларускага грамадзянства. Ды гэтага мала: побач з палітыкай разьбіваньня і нішчэньня нашых матэрыяльных і духовых сіл, пушчаны ў ход новы спосаб барацьбы з беларусамі: спосаб *дэмаралізаваньня*, шырэньня *маральнае атруты...* Пры магутным падтрыманьні з польскага боку творацца „беларускія“ ўстановы і арганізацыі, на чале якіх стаяць элемэнты маральна брудныя, пашыраючыя сярод нашага грамадзянства маральную згнілізну. Усе гэтыя валэйшаўскія прадпрыемствы і шулерні глыбока дэмаралізуюць ня толькі гасьцей іх — польскіх урадоўцаў, што праігрываюць тамака казённыя, ці здабытыя праступнымі спосабамі грошы: яны робяць нешта йшчэ горшае, бо гэную *маральную гніль уганяюць у беларускую масу*, на жывым прыкладзе навучаючы яе, што не маральнасьць, ня чэснасьць і ідэйнасьць, але як-раз процілежнасьць гэтага, маральны бруд і прадажнасьць даюць грошы, салодкае жыцьцё, ды, нават,—пашану ў „паноў палажэньня“... Людзі, якіх сама польская ўлада заклэйміла, як маральна брудных, становяцца пасрэднікамі паміж гэтай уладай і насяленьнем („Прасьвета“). І ўсё гэта робіцца з ведама таго, хто прадстаўляе ў сучасным урадзе іменна польскую дэмакратыю: з ведама пана Тугутта,...

Уціск, крыўды, зьдзекі — усё гэта рэчы, якія з часам забываюцца. Раны гояцца, магільныя наспы травой зарастаюць. Але гэная маральная згнілізна, якая разводзіцца ў нашым грамадзянстве вонкавымі сіламі, — гэта нешта такое, чаго народ ня можа забыць ніколі. І адказнасьць за тое, што цяпер у нас і сярод нас творыцца, мы ўскладаем у першы чарод *на польскую дэмакратыю*: сваім маўчаньнем, сваей маўклівай згодай на ўсё гэтае яна стаецца *ўчасьніцай у найгоршай, найстрашнейшай крыўдзе*, учыненай нашаму народу.

## Чужая школа не дае карысьці.

*(Голас чытача).*

Ляжыць прада мною № 3 „Беларускай Долі“.

Чытаючы карэспандэнцыю „Ёлка ў Чамерскай прыватнай школе“, сэрца мае цешылася, і на вачах аж сьлёзы выступілі ад радасьці, што там далёка, у глухім кутку Слонімшчыны, дзеткі гэтак шчасьліва і радасна, палюдзку гулялі Каляды і сустракалі Новы Год.

Мысьляй пераношуся туды, у Чамерскую школу, і бачу прамянеючыя ад радасьці твары дзетак і такія-ж радасныя твары іх бацькоў і матак. Чую родныя сьпевы, родную дэклямацыю і толькі родную мову! Як-жа павінна было быць весела, радасна, шчасьліва ў той вечар,—і я, каб мог папасьці да вас на тую пару і весяліцца разам з вамі, мусіць, бы гэты дзень лічыў самым шчасьлівым днём у маім жыцьці.

Табе, дарагі настаўніку, крэпка, крэпка сьціскаю брацкую далонь і жадаю сілы і вытрываласьці ў тваім цяжкім змаганьні за родную мову. Хай твая ўзорная школа сьвеціць добрым прыкладам для іншых школаў.

Мне здаецца, што ў прыкладзе Чамерскай школы ёсьць нешта вялікае, стыхійнае, нейкае няведамае жыцьцё, сама прырода. Вось прыклад; чамерскі казённы польскі вучыцель сядзіць у вялікай, але... пустой школе. А тут, пад бокам, у цеснай хатцы, на ваенным папялішчы вырастае другая школа, ледзьве зьмяшчаючы ахвотных вучыцца. Чаму гэта? а таму, што польскі вучыцель **чужынец**, што ён ня прышоў сюды тварыць жыцьцё і сеяць асьвету, а толькі дзеля апалячываньня,—дзеля забіваньня жывога духа ў беларускіх дзетак.

І вось само жыцьцё, сама прырода адкідае яго, як нешта мёртвае, непатрэбнае, а на яго мейсца заве свайго роднага вучыцеля, — поўнага жыцьця, ахвярнасьці і запалу да працы.

І там, дзе творыць само жыцьцё, там ідзе праца, там жыве радасьць і шчасьце; там лунаюць родныя песьні, жывуць там вясёлыя родныя жарты, казкі і т. п... Там дзеткі вялікай сямейкай, у добрай згодзе, весяляцца, бачучы і чуючы ўсё сваё, усё роднае, а бацькі іх нацяшаюцца, бачучы, як многа добрага, разумнага даець дзеткам родная школа.

Ня тое ў нас, у Салечніцкай гміне, пад самай Вільняй, дзе цёмныя, адурманеныя ксяндзамі людзі лічаць сябе за палякоў і дзяцей сваіх пасылаюць у польскую школу. Але самі бацькі кажуць, што болей карысьці аддаць дзіця быдла пасьвіць, як да тэй школы. Цэлы дзень за колькі вёрст чутно несьцярпімае галасаваньне дзяцей,—як-бы іх хто рэжа, ці б'ець.

Вучаць дзяцей дьзве вучылькі-паненкі, каторыя Бог ведае аб чым думаюць, толькі не аб навуцы. Наагул, ніякай навукі, ніякага парадку, ніякае дысцыпліны тамака няма. Калі, хто і як дзяцей вуча, — няведама, бо а кожнай пары, як толькі выйдзеш на вуліцу, заўсёды ўбачыш школьных дзяцей, бегаючых адзін за адным; уся навука—у тым, што на малога, гадоў 10, хлапца наваліцца грамада хлапцоў, заваляць яго ў балота, пры чым колькі хлапцоў сядае на рукі, на ногі, на галаву, а хлапцоў з пяць—на грудзі і душаць малога. Той дзіка крычыць, а цэлая грамада дзяцей заходзіцца ад сьмеху, гледзячы на неміласэрдныя мукі дзіцяці, і .. ўсё гэта дзеецца пад самым вакном вучыцелек, якія, мусіць, сьляпыя і глухія на ўсе гэтыя варварскія гульні дзяцей.

Бацькі казалі мне, што дзеці іх былі лепшымі, пакуль не хадзілі да тэй школы. Замест добрай навукі, дзіця прыходзіць са школы да дому з парванай шапкай, з адарваным каўняром, ці рукавом, з падбітым вокам, ці акрываўленым носам. Гэта ўсё—школьныя гульні.

Скуль узяліся ў дзяцей розныя жульніцкія прывычкі?—кажуць бацькі. — Дзіця навучылася красьці, ілгаць, курыць, ня хоча брацца за кніжку, ці наагул за якую-колечы працу. Просіць грошы на сшыток, на кніжку, а купляе папяросы, цукеркі, а н'ат і гарэлку.

Пішучы падрабязна, ня толькі ў малой газэтнай карэспандэнцыі, але і на валовай скуры ўсяго ня сьпішаш.

Лепшыя бацькі, бачучы шкадлівасьць такое навукі, даўно пазабіралі сваіх дзяцей са школы і вучаць у хаце.

Ня лепш стаіць справа і з самымі бацькамі. У нашым мястэчку няма ніякага таварыства, ні дому народнага, ні бібліатэкі—чытальні. Жывуць людзі, не раўнуючы, як быдля якое. Ані газэт, ані кніжак ніхто ў вочы ня бачыць. Аб роўні сьвядомасьці тутэйшых сялян можа сьведчыць такі факт, што некаторыя, досыць нядурныя сяляне пыталіся ў мяне: „ці праўда, што ў Расеі ўжо правіць цар? Ці „Германія“ (Нямеччына) ваюе з туркам? Ці румыны (думаюць, што мурыны) людзей ядуць? Ці Амэрыку акіян заліў“ і т. п.. Няма нічога дзіўнага ў тым, бо тутэйшыя вучылькі ні разу не рабілі ніякіх адчытаў для дарослых. І, наагул, асьмеліваюся думаць, што ў тутэйшых вучыцелек сьвядомасьць мала большая, чым у тутэйшых сялян.

Ні ў будні, а ні ў сьвяточны дзень я ня бачыў, каб дзе сяляне сабраліся разам і гутарылі аб якіх добрых справах. Толькі на вясельлі, ці на хрэзьбінах гуляюць грамадой, але і там нічога добрага не пачуеш. П'янства, нейкае дзікае, адурманіваючае п'янства, — да страты прытомнасьці і чалавечае годнасьці. Дзікія сьпевы, шалёныя скокі, патокі няпрыстойных, брудных слоў, а пасьля—бітва і кроў,—вось абразок нашае сялянскае забавы!

Ня лепш і з моладзяй! Бываў я на, так званых, вечарынах. Хата прасторная; у адным канцы гуляюць у карты на грошы, і хто выйграе, павінен „фундаваць“ для ўсіх гарэлку, а ў другім канцы п'яны музыка нешта скуголіць на гармоні. Пар са дваццаць хлапцоў і дзяўчат брыдка круцяцца па хаці, падымаючы такі пыл, што трудна людзей пазнаць. Потна, накурана, душна, цесна.

Не навіна бачыць п'яныя, абрыдлыя твары хлапцоў, а н'ат і дзяўчат. Брыдкія прыпеўкі, брыдкія словы так і вісяць у паветры. Гдзе падзелася тая срогасьць і недаступнасьць дзяўчат?—„Француская культура“ ступянёва заступае яе мейсца.

Паміж хлапцамі аднэй і другой вёскі падымаецца сварка, а пасьля гасьнець лямпа, тапчаны і табурэты лятаюць у паветры, трашчаць галовы, льецца кроў, зьвіняць вокны; усё пакрываецца бруднай маскоўскай лаянкай.

Дзеецца ўсё гэта на вачах дзяцей, на вачах дзяўчат і іх бацькоў...

Шырыцца маральная гніль. Нейкі туман за-

сланіў людзям вочы. Усё якбы коціцца ў нейкую пропасьць...

Толькі адна „рэстаўрацыя“ ня хіліцца да ўпадку, а разьвіваецца ўсё болей і болей. Ні днём, ні ночай не замыкаюцца яе дзьверы. Заўсёды там поўна гасьцей, заўсёды пануе там шум, сварка, сьпевы, лаянка і так без канца.

П'юць усе. Якбы якая эпідэмія п'янства заразіла людзей бяз розьніцы стану і полу.

П'юць мужчыны, п'юць бабы, дзяўчаты, хлапцы і дзеці; п'ець паліцыя, п'юць вучыцялі, п'юць „вышэйшыя ўжэнднікі“, п'ець уся каапэратыва, п'ець солтыс, п'ець лясьнічы, адміністратар, аканом, фэльчар з маёнтку; п'юць багатыя і бедныя сяляне. Адным словам, амаль ня кожнага з тутэйшых спаткаеш у „рэстаўрацыі“ пры бутэльцы.

Што гэта? пытаюся я і сам сябе і не знаходжу адказу.

Чаму гэта людзі прапіваюць астаткі, прапіваюць розум, гонар і чалавечую годнасьць?

Чаму гэта так азьвярэў чалавек? Скуль гэта агульная дэмаралізацыя?

І здаецца мне, што прычына ўсяго гэтага крыецца ў рэнэгацтве народу. Сяляне, сьлепа верыўшыя сваім ксяндзам, што хто каталік — той і паляк, пагарджаюць роднай мовай, роднымі звычаямі, а гэта значыць усім тым, што павінна быць дорага кожнаму культурнаму чалавеку. Зьнівэчылі нацыянальную ідэю, адракліся ад свайго нацыянальнага „Я“, а знача выракліся самых сябе. А з чужога прысвоілі сабе толькі адны польскія пацеры. Чужая і далёкая польская культура не магла прышчапіцца да тутэйшага народу, бо наагул ніхто з палякоў ніякай культурнай працы тут ня вёў і не вядзе, а свая нацыянальная беларуская сьвядомасьць яшчэ надта слабая. Усё гэта зрабіла тое, што з тутэйшых сялян вышла, як кажуць, „**ні Богу сьвечка, ні чорту качарэжка**“.

Замест нацыянальнай сьвядомасьці, пачуцьця свайго нацыянальнага „**Я**“, а з гэтым і роднай асьветы і творчай працы,—бачым п'янства, зьверства, распусту, духовую цямноту і маральную згнілізну. І гэта зразумела, бо ў жыцьці нічога не павінна стаяць на мейсцы: здаровае павінна жыць, а гнілое—гніць!

Хай за ўсё гэтае гнаеньне беларускай душы, а таксама за ўзрастаючы малады бандытызм, праявы якога ўжо бачым у пашыраючайся дэмаралізацыі тутэйшай моладзі, бяруць адказнасьць усе тыя польскія культуртрэгеры, каторым ня справа асьветы, этыкі і маральнага падняцьця нашага народу ляжыць на сэрцы, а толькі справа апалячываньня, ці, лепш сказаць, адурманіваньня нашага народу для розных палітычных мэтаў.

Вось чаму з такой радасьцю я сустракаю вестку, што там — далёка ад Вільні, у глухой Слонімшчыне, сяляне ўзыйшлі на шлях адкрытай барацьбы за родную школу і што пладатворныя вынікі іх змаганьня так хутка выявіліся ў пастаці тэй радасьці, таго праўдзівага шчасьця, якое адчувалі беларускія дзеткі, іх бацькі і маткі на ёлцы ў Чамерскай прыватнай школе.

Усім арганізатарам тэй роднай школы і яе настаўніку—чэсьць і хвала!

**Янка Маланка.**

***Ніколі не зьніштажай сваей беларускай газэты! Прачытаўшы, давай суседу, ці знаемаму, каб і ён пазнаў праўду аб жыцьці свайго народу і даведаўся, што робіцца на сьвеце!***

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Сьмерць пасла З. Сэйды.

У Варшаве памёр віцэ-старшыня Сойму п. Зыгм. Сэйда, брат вядомага эндэка, былага „міністра загран. спраў“—Мар'яна Сэйды.

### Пастанова канвэнту сэньёраў.

Конвэнт сэньёраў пастанавіў, пакуль камісія будзе працаваць над бюджэтам, склікаць агульныя паседжаньні Сойму толькі ў выпадку канешнай патрэбы.

### Арышт пятлюраўскага міністра.

20 студня, як пішуць польскія газэты, у Варшаве паліцыя арыштавала б. міністра ў габінэце атамана Пятлюры, нейкага Пінхоса Краснага (?), які абвінавачываецца ў шпіёнстве на карысьць Радавай Расеі (?).

### Конная дывэрсыйная банда.

„Robotnik“ наказуе, што ў раёне Кукавічаў, каля Клецку, 26 студня пераехала цераз граніцу група конных людзей у цывільных вопратках — з боку С. С. Р. Р. Спаткаўшыся з патрулём пагранічнікаў, банда павярнула назад.

### Новыя банды.

„Robotnik“ піша, што па весткам, якія даходзяць з пагранічча, быццам за кардонам рыхтуюцца новыя вялікія банды і напады.

Паміж іншым, у Магілянах месьціцца банда з 100—150 чалавек—з Мухай-Міхальскім і Янам(?) Качаном на чале, якія быццам ужо... заключылі кантракт (з кім?) аб тым, што ўсё зрабаванае мае быць уласнасьцю ўчасьнікаў нападаў...

## Заграніцай.

### Праект статуту „Польскай Нацыянальнай Рады“ ў Літве.

19-га сьнежня 1924 г. Польскі Клюб ў Ковенскім Сойме апрацаваў і падаў у Сойм праект статуту „Польскай Нацыянальнай Рады“ ў Літоўскай Рэспубліцы.

Галоўныя рысы гэтага цікавага праекту—гэткія:

Польскую Нацыянальную Раду выбірае Польскае Нацыянальнае Сабраньне, сябры якога выбіраюцца ўсімі літоўскімі грамадзянамі польскай нацыянальнасьці—шляхам агульнага, роўнага, тайнага і простага галасаваньня, па сыстэме прапарцыянальных выбараў (як адбываліся выбары і ў польскі Сойм, а таксама і ў літоўскі).

Старшыня Польскай Нацыянальнай Рады прымае ўчасьце у паседжаньнях габінэту міністраў з правам дарадчага голасу.

У межах загарантаваных Канстытуцыяй правоў для меншасьцяў — Польская Нацыянальная Рада мае права выдаваць абязываючыя пастановы для ўсіх сяброў польскай меншасьці.

Польская Нацыянальная Рада вядзе на мясцох рэгістрацыю (сьпіскі) грамадзян палякоў, адкрытыя для праверкі і паправак заінтарасаванымі асобамі.

Нацыянальная Рада мае правы юрыдычнай асобы, мае права рабіць усялякія праўныя акты, (купляць нерухомасьці і рухомасьці, прадаваць і г. д.).

Гэты праект быў ужо раз прадстаўлены Польскім Клюбам у 1923 г. ўраду Гальванаўскаса, але той у Сойм праекту не падаў.

„Robotnik“, падаючы гэты праект, дадае, што ў Літве дагэтуль урад не зрабіў нічога, каб правясьці ў жыцьцё артыкулы Дзяржаўнае Канстытуцыі Літвы і яе ўрачыстай дэкларацыі перад Лігай Народаў — у справе правоў меншасьцяў. Гэтыя правы не зрэалізаваны ў Літве...

А ў Польшчы?

Нядаўна праф. Казлоўскі, адзін з вельмі нячысьленых „у нашыя часы запраўды шляхотных мысьліцеляў у Польшчы“, у сваіх лекцыях у Празе казаў, што польская нацыянальная думка мае тое агульналюдзкае, — сусьветна-гістарычнае значэньне, што выпрацавала найпаўнейшыя, дасягаючыя мэты і нармуючыя душу мэтады нацыянальнага разьвіцьця і вызваленьня наагул, якімі пасьля можа ўжо карыстацца лёгка кожны народ, які таксама паняволены і таксама вядзе барацьбу за волю і незалежнасьць, як польскі.

Дык вось, калі гэта праўда, але ня „blaga“, дык няхай варшаўскія супляменьнікі пражскага прафэсара і літоўскіх палякоў—дадуць беларускай меншасьці ў Польшчы тое, чаго палякі дабіваюцца для сябе ад ковенскага ўраду ў Літве!

---

Камісія Сойму адкінула аднагалосна праект Польскай Нацыянальнай Рады, выпрацаванай польскім Соймамвым Клюбам.

Адмова матывавана тым, што нацыянальная аўтаномія дапускаецца канстытуцыяй толькі дзеля буйнейшых нацыянальных меншасьцяў, а палякоў у Літве, згодна з статыстыкай,—толькі каля 3 процантаў.

# Загранічныя даўгі Польшчы.

Польская Рэспубліка вінавата другім дзяржавам гэткія сумы:

**Амэрыцы** — 178 міліёнаў 565 тысяч даляраў, або блізу 926 **міліёнаў злотых;**

**Францыі** — 891 міліён 105 тысячаў франкаў, або блізу 249 **міліёнаў злотых;**

**Англіі** — 5 міліёнаў фунтаў, або 122 **міліёны злот.**;

**Італіі** — 469 міліёнаў ліраў, або звыш 108 **міліёнаў злот.**;

**Галяндыі** — 9 міліёнаў 89 тысяч флярэнаў, або больш за 18 **міліёнаў злот.**;

**Нарвэгіі** — 16 міліёнаў 497 тысяч карон, або блізу 12 **міліён. злот.**;

**Швэцыі** — 5 міліён. 106 тысяч карон, або звыш 7 **міліён. злот.**;

**Даніі** — 358 тысяч карон, або звыш 301 **тыс. злот.**;

**Швайцарыі** — 73 тысячы 600 франкаў, ці каля 72 **тысяч злот.**

А ўсяго разам — **каля паўтара міліярда злотых.**

На аплату працэнтаў і надплату даўгоў у 1925 г. Польшча празначыла 57½ міліёнаў злотых, у тым ліку адной толькі Амэрыцы выпадае 13 міліёнаў злотых.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць яшчэ **4½ мільярды залатых марак** доўгу, які Польшча павінна выплаціць, як заплату за нямецкую і аўстрыйскую дзяржаўную маемасьць на адышоўшых да Польшчы землях Нямеччыны і Аўстрыі, як сплату часьці нямецкіх даўгоў, што прыпадаюць на гэтыя-ж землі, і як польскую часьць „вызвольнага“ доўгу дзяржаў-насьледніц Аўстрыі.

# Словы і учынкі польскае дэмакратыі у справе „Крэсаў“.

Гэтымі днямі адбылася ў Варшаве даволі цікаўная „зборная лекцыя“ ў справе—усё тых-жа „нястраўных“ „Усходніх Крэсаў“.

На гэтую нястраўную, — негыгіенічную тэму (шкодную для здароўя) зрабіў веча ў салі „Towarzystwa Hygjenicznego“ „Саюз Незалежнай Сацыялістычнай Моладзі“,—так сказаць—„пэ-со мольцы“.

Выступілі на вечы з дакладамі тры (відаць, найстарэйшыя?) прадстаўнікі польскай „незалежнай сацыялістычнай моладзі“ — былы міністар Л. Васілеўскі і паслы: Недзялковскі і Прагер.

Пан Васілеўскі казаў агульна аб справе меншасьцяў у Польшчы і ў іншых дзяржавах, аб гэтым вельмі балючым у Эўропе пытаньні, калі ня створаным, дык завостраным тым самым Вэрсальскім „мірам“, які быццам меў адной з мэтаў вырашыць яго.

Слушна аўтар пералічывае ўсе „ірэдэнты“, якіх нарабіў Вэрсальскі Трактат—у дадатак да існаваўшых раней. Але зусім няслушна ён ставіць у адзін рад гэткія рэчы, як „kwestja“ каталёнская ў Гішпаніі, ці ў Фінляндыі—шведская і — справу „ўсходніх крэсаў“ Польшчы. Трэба наагул сьцьвярдзіць, што нідзе ў Эўропе, нават на Балканах, ані ў Турэччыне няма, калі ня гэткай вастраты, дык ужо бясспрэчна гэткіх разьмераў, гэткага народна-тэрыторыяльнага маштабу, гэтага зьявішча, гэтай агульна-эўрапэйскай хваробы, як у Польшчы!..

Бясспрэчна,—нідзе ў іншым мейсцы Эўропы няма таго, каб **„меншасьцямі“ лічылася і адпаведна трактавалася ў дзяржаве цэлая траціна яго насяленьня**, каб да этнаграфічна-тэрытарыяльнага ядра дзяржавы была далучана роўная ёй этнаграфічна чужая тэрыторыя.

І калі, як кажуць філязофы, **якасьць** ёсьць вынікам (функцыяй) **колькасьці**, дык можна сказаць, што „справа меншасьцяй“ у Польшчы стаіць зусім асобна і амаль не адзінока паміж усімі пералічанымі п. Васілеўскім, як зусім „арыгінальнае“ зьявішча. Дзеля гэтага нашая „крэсавая хвароба“ перад усім пагражае агульна эўрапэйскай „гыгіене“...

Ці-ж можна, запраўды, казаць, як казаў п. Васілеўскі, што нашая „крэсавая меншасьцёвая балячка створана дзеля таго, што цяжка было „зусім дакладна сумясьціць этнаграфічныя граніцы з граніцамі дзяржаўнымі“?—Ня можна-ж пры правядзеньні этнаграфічна-дзяржаўных граніцаў рабіць „недакладнасьці“ ў сотні тысячаў квадратных кіляметраў і ў дзесятак мільёнаў „недзяржаўна-этнаграфічнага“ насяленьня!..

Аратар слушна нарысаваў агульную гістарычную тэндэнцыю паступовага, чарговага вызваленьня і саматварэньня ў этнаграфічна-дзяржаўных граніцах **народаў**, тварэньня імі ўласных **нацыянальных гаспадарстваў**. Але-ж якраз тое, што зроблена — быццам пад лёзунгам гэтай агульна-людзкай эвалюцыі — у выпадку Польшчы, гэта рашуча і прынцыпова пярэчыць духу і зьместу гэтай эвалюцыі.

Гістарычна чарговаму вызваленьню Польскага народу, стварэньню ім сваей **нацыянальнай** дзяржавы кожны народ і кожны воле любівы чалавек павінен толькі спагадаць і радавацца. Але справа ў тым, што ў „заходнім Вэрсалі“, а пасьля яшчэ ў другім „усходнім Вэрсалі“ (ў Рызе) зроблена нешта якраз **пагражаючае гэтаму вызваленьню**, гэтай волі польскага народу.

Аратар слушна кажа, што ў выніку нацыянальна-дзяржаўнага ўнезалежненьня народаў—„зьмяншаецца агульная сума нацыянальнага ўціску, але астаецца ўціск некаторых нацыянальных адрэзкаў, якія не ўвайшлі ў межы ўласнай нацыянальнай дзяржавы“.

Але, калі,—як сьцьвярджае з лічбамі і фактамі ў руках ў вядомай кніжцы італьянскі палітык Нітті, — **агульная сума нацыянальнага** ўціску і гвалту ў выніку „Вэрсальскай Канстытуцыі“ „Новай Эўропы“ ня толькі ня зьменшылася, але, наадварот, яшчэ павялічылася; калі гэтыя „нацыянальныя адрэзкі“, аб якіх, як быццам аб запраўды дробных кавалках, кажа п. Васілеўскі, мерацца, як мы казалі, дзесяткамі тысяч кіляметраў і мільёнамі насяленьня,—тады ўся справа зьмяняецца — пераварачываецца ўверх нагамі.

Зусім слушна казаў п. Васілеўскі, што гэтыя „нацыянальныя адрэзкі“ агульная палітыка змушана аддаць на ахвяру дзеля мэтаў палітычных (?), стратэгічных, эканамічных, камунікацыйных і г. д.

Але, што трэба рабіць, калі гэтая „ахвяра“, не даючы, як у даным канкрэтным выпадку, ніякіх карысьцяў ці выгад камунікацыйных і эканамічных, — „палітычна“ і „стратэгічна“ толькі... выклікае грозныя канфлікты, якія гэтая „ахвяра“ мела мэтай зьліквідаваць?..

„Вызваленьне (wyjarzmienie) таго ці іншага народу наступае **заўсёды** ў рэзультаце вайны“—слушна сказаў аратар. Дык вось, найгоршае вырашэньне — у выніку міра—праблемы нацыянальна дзяржаўных граніцаў—якраз тое, якое гэтую вайну ня толькі ня ўхіляе зусім, але, наадварот, робіць нямінучай і блізкай.

Дэмакратыя, якая перад усім ня хоча вайны,—казаў аратар, павінна знайсьці такі выхад для разьвязаньня справы меншасьцяў, які-б павёў да мэты—**без давядзеньня да вайны**.

На гэта трэба адказаць, што тэарэтычна гэта, можа, і магчыма, калі гэтыя „адрэзкі“ не дасягаюць некаторай велічыні і... вышыні нацыянальнай сьвядомасьці. А другое—калі гэтая дэмакратыя мае запраўдную шчырасьць і сілу ў „сваім паньстве“, — у кожным выпадку... большую, як гэта маюць паны польскія дэмакраты. І найслушней сам лектар сьцьвярджае, што ўсе тыя дэмакратычныя „формулы аховы меншасьцяў“, якія створаны на канфэрэнцыі ў Парыжу (ў Вэрсальскім і інш. трактатах)—нідзе, а перад усім у Польшчы—не выпаўняюцца.

Яшчэ слушней сьцьвярджае аратар, што ўся праблема польскіх меншасьцяў кампліктуецца яшчэ ў тым, што „жыхары гэтых крэсавых адрэзкаў сілай рэчаў цягнуцца да сваіх братоў па за граніцамі Польшчы“.

# † КСЕНІЯ КРАСІНСКАЯ.

Праўдзівая веліч душы выяўляецца ня толькі ў вялікіх дзеяньнях, што імя ўчыніўшага іх услаўляюць на ўсенькі сьвет. Веліч душы крыецца ня менш часта ў тых ціхіх, нявідочных грамадзкіх працаўнікох,якія, быццам маленечкія колцы ў вялізарнай усенароднай машыне, зьяўляюцца абсалютна неабходнымі дзеля руху гэтае машыны.

Да такіх ціхіх, нявідочных адзінак, што працай жыцьця свайго выявілі веліч душы, належыць і зышоўшая без пары на 26-ым годзе жыцьця Ксенія Красінская. Сухоты, люты вораг нашае маладое народнае інтэлігенцыі, скасілі і Яе, як цэлы рад другіх беларускіх ідэйных працаўнікоў.

Красінскую ведалі добра ўсе нашы мастакі—артысты, якія працавалі разам з Ёй пры будове нашага тэатру ў Вільні. Яна была аднэй з найбольш жывых работніц Беларускае Драматычнае Майстроўні, закладзенае братам Яе, Мікалаем. Яна выступала і на сцэне, і працавала неўтаміма—паскольку пазваляла здароўе—у галіне арганізацыі нашага тэатру.

А побач з гэтым, захопленая беларускай ідэяй, яна аддавала нязьлічаныя дробныя, але, ня гледзячы на гэта, нязвычайна цэнныя ўслугі беларускай грамадзкай і палітычнай рабоце,—услугі, якія ня твораць **іменьня**, але памагаюць тварыць **дзела**. І аб гэтых услугах ведалі толькі найбліжэйшыя да Яе.

Ідэалістка па прыродзе,—„не от мира сего“,—Яна тым болей адыходзіла ад асабістых, эгоістычных спраў, што вечная пагроза перадчаснае сьмерці забівала ў Ёй радасьць жыцьця, магчымасьць карыстацца гэтым жыцьцём **для сябе**.

Нязвычайна цяжкія матаряльныя варункі жыцьця не давалі, як сьлед, бароцца з хваробай. Урэшце надумалася Яна ў мінулую восень перабрацца за кардон, спадзяючыся папасьці на палудзень—у Крым, каб у тамтэйшым цёплым і мягкім клімаце папращць здароўе і набрацца новых сіл.

Ды плян гэты ня ўдаўся, Яе вярнулі назад у Вільню, а перажытыя маральныя і фізычныя турботы аканчальна зламалі Яе кволы арганізм. Ёй прышлося легчы ў бальніцу — у „Мішмэрэс Хойлім“, дзе ў ноч з 25 на 26 студня Яна і памерла.

На пахароны Яе сабралася даволі вялікая грамада віленскіх беларускіх дзеячоў, якія і праводзілі Яе на Еўфрасінеўскі магільнік, дзе зләжылі цела Яе ў „беларускім кутку“— побач з магілкамі беларускіх вучняў, Калаўра і інш.

Хай лёгкая будзе Ёй родна зямелька!

**А. Н.**

---

з беларускім адрасамі, а зварчаўшымся да яго беларусам заявіў, што і за дастаўку адрасатам простае карэспандэнцыі з беларускімі адрасамі пошта на сябе адказнасьці не бярэ.

Што ўсё гэта знача?

Калі ўрадавае апавяшчэньне **нічога не зьмяняе** ў істнаваўшым дагэтуль прымусе пісаць **увесь адрас** папольску,—дык навошта-ж гэная гутарка аб абавязковасьці пісаньня папольску-ж назову мяйсцовасьці? Ці гэта, мо‘, зроблена, як і шмат іншых паяпровых „свабод“, дзеля вывазу заграніцу, а адначасна паштовым установам загадана рабіць усё пастараму?

Можа-б нашы паслы заняліся гэтай справай і выясьнілі ў Варшаве, што гэта за баламуцтва?

☞ **Перамаляваліся.** Як ведама, камісар ураду п. Вімбор, адмовіўся зацьвярдзіць статут Беларускага Клюбу, які падалі вядомыя прадстаўнікі беларускага грамадзянства з дырэктарам Гімназіі Р. Астроўскім на чале. Пры гэтым п. Вімбор заявіў, што клюбаў у Вільні ўжо залішне многа.

Ня гледзячы на такую заяву, той-жа п. Вімбор зацьвярдзіў—як піша „Грам. Голас — статут новага „беларускага“ клюбу пад назовам „Віленскі Беларускі Клюб“, які гэтымі дзямі пачне сваю чыннасьць.

Новы клюб — той тэй-жа валэйшаўскае банды, якая вяла шулерню пад назовам „Беларускае Грамадзянскае Сабраньне“. Пасьля аканчальнае кампрамітацыі гэнага прытону крыміналістаў у сувязі з выкрытымі зладзействамі, учыненымі вышэйшымі ўрадоўцамі віленскае паліцыі куратарыюму—сталымі гасьцьмі шулерні, — валэйшаўская банда, як відаць, пастанавіла „перамаляваць вывеску“. І вось віленская адміністрацыя, забаранішая беларускаму грамадзянству стварыць свой запраўдны клюб,—гэтым разам не палічыла, што „клюбаў у Вільні зашмат“, і дала канцэсію на новы ігорны прытон...

☞ **У праваслоўнай духоўнай сэмінарыі.** На месца звольненага няўдзячнай уладай ініцыятара спольшчаньня сэмінарыі, архімандрыта Піліпа Марозава, назначаны былы вучыцель валынскае сэмінарыі Тучэвскі.

☞ **Падзяка.** Мір. Гуртку Аматараў Артыстаў. 20 злоты, як ахвяру для дзіцячага прытулку, атрымалі. Шчыры і вялікі дзякуй.

**Камітэт Белар. Т-ва помачы пац. ад вайны.**

☞ **„Арышт шпіёнскай банды“.** „Dz. Wil.“ піша, што паліцыя арыштавала ў Празароцкай гміне, Дісьненскага павету, 20 асоб, якія займаліся шпіёнствам на карысьць Радавай Расеі. Сярод арыштаваных была нейкая Шчэнсновіч, якая ў часе паяўленьня паліцыі прыняла атруту і памёрла.

---

# Цэнтральная Беларус. Школьная Рада.

гэтым паведамляе вучыцялёў, якія склалі анкету ў Ц.Б.Ш.Р. і наагул зацікаўленых беларускімі вучыцельскімі курсамі, што—

1) Урад мае адчыніць беларускія вучыцельскія курсы **ў Кракаве на 40 слухачоў** і ў **Вільні** пры Кураторыюме Віленскага Школьнага Вокругу **на 40 слухачоў**;

2) Дзеля таго, што курсы адчыняюцца ўрадам, то асобы, якія жадаюць паступіць на курсы ў Вільні, могуць скласьці ў Кураторыюме Віленскага Школьнага Вокругу заяву аб залічэньні на курсы з адпаведнымі дакумэнтамі; а копію заявы абавязкава прыслаць у Цэнтральную Беларускую Школьную Раду;

3. Паведамляючы аб вышэй сказаным, Ц.Б.Ш.Р. даводзіць да ведама заінтарасаваных, што ею робяцца перад уладаю заходы аб адчыненьні беларускіх вучыцельскіх курсаў у Вільні на 300 слухачоў.

**Цэнтрал. Беларус. Школ. Рада.**
Вільня, Віленская 12—6.

---

# Карэспандэнцыі.

## Пародыя самаўрадаваньня.

*(Слонім).*

Пародыяй самаўрадаваньня зьяўляюцца ў нас павятовыя сойміні. Слонімскі соймік ня робіць вынятку. Старшынёю сойміку зьяўляецца павятовы стараста, а сябрамі, пераважна, залежныя ад яго войты. Атрымліваючы пэнсію ня менш, як настаўнікі, седзючы на гаспадарках і маючы пабочныя даходы „па службе“, гэтыя паны багацеюць ня днямі, а гадзінамі. Калі пры разглядзе якога пытаньня стараста запытаецца: „хто проціў?“, то ўсе маўчаць. Калі-ж які „нетактоўны“ войт выступіць з апазіцыяй, то стараста зараз асадзіць пытаньнямі „ну, што там скажа **п. войт?**“ І той, зразумеўшы, што ён мае дачыненьне з сваім начальнікам, адразу сьціхае.

„Дэмакратычны“ Слонімскі соймік купіў цялятамі 6 **чырвоных** бычкоў, каб з іх выгадаваць племенных быкоў... Аднак, кармілі іх так дрэнна, што быкі вышлі заморкамі, і іх соймік выставіў на таргі. Гэтых бычкоў з таргоў, змовіўшыся наперад з гандлярамі, купіў радны сойміку п. Калантай і купіў за бязцэн, бо ў сярэднім цана бычка была 100 зл., а ён купіў іх шмат танней—па 65 зл. за штуку. Соймік нічога ня меў проці таго, каб чырвоныя бычкі дасталіся Калантаю.

Цяпер будуць нанова гавадзіць чырвоных бычкоў, бо мужыкі ў нас нячырвоныя. **Б.**

## Прыезд дэпутата.

*(Вёска Чамяры, Слонімскага павету).*

12.І.1925 году, у дзень поснай Куцьці перад Трыма Каралямі, вёска Чамяры мела падвойнае сьвята. Вольны, з прычыны Куцьці, ад працы народ спатыкаў свайго дэпутата ў Сойм, грамадзяніна Рагулю, які неспадзявана прыехаў у Чамяры, каб на мейсцы пазнаёміцца з варункамі, у якіх жыве адзіная на гміну прыватная пачатковая беларуская школа. Вестка аб гэтым маланкай абляцела ўсю вёску. Старыя і малады, прыбраўшыся пасьвяточнаму, пачалі зьбягацца, каб паглядзець на выбранага імі дарагога пасла. У кароткі час каля школы сабралася з чатырыста асоб, ня лічучы вучняў. Вуліцу і двор прыбралі пасьвяточнаму.

Сьвята было вялікае. Жывучы каля сарака гадоў на сьвеце, я ніколі ня бачыў такога прыкладнага парадку, ды такой радасьці, якая была відаць у прысутных пры спатканьні пасла Рагулі грамадзян. Старыя па гадоў 65—70 цягнуліся адзін перад адным, каб хоць пабачыць свайго заступніка. Жонкі, бягучы ў грамаду, плакалі ад радасьці, называючы пасла сонейкам, якое заглянула ў іх гаротную хату.

У гэтае вялікае сьвята, якое здарылася адзін раз у пяць гадоў, жанчын дома не маглі затрымаць нават іх маленькія грудныя дзеці.

А гадзіне 10 зрана пасол прыбыў у школу. Каля школы яго спаткаў вучань, І. Міска, з хлебам і сольлю і з кароткім прывітаньнем. Пасол падзякаваў за прывітаньне і ад сябе і ад усяго Пасольскага Клюбу, ды пачаў вітаць вучняў і ўсю грамаду, што зьбеглася на яго спатканьне. Пасьля прывітаньня зайшлі ў школу. Школа—вельмі цесная (7 . 8 . 3½ арш.), але зьмясьціла ўсіх 57 вучняў і шмат гасьцей. Тут пасла вітаў вучыцель школы, Бурсэвіч. Пасьля прывітаньня вучнёўскі хор пяяў.

Пасол пабыў у школе каля поўгадзіны. За гэты час вучні паасобку і ў групах прадэклямавалі некалькі вершаў, апавяданьняў і жартаў. Было відаць, што пасол перажывае ў сэрцы сваім радасныя, а заразам і цяжкія мінуты. Прад ім, з аднаго боку, стаяў народ, які праз родную школу імкнецца да лепшай долі і сьвятлейшай будучыні, з другога — школьная адміністрацыя, якая не згаджаецца легалізаваць гэтую школу і пусьціць яе ў школьны будынак, што стаіць зусім пусты, ды ў якім жыве бяз працы польскі вучыцель. Затое, што дзеці ня ходзяць у польскую школу і нібы зусім ня вучацца, вёска аштрафавана больш, як на 3,000 злотых. Вялікі і цяжкі сум агарнуў сэрца пасла. Гэтыя думкі і гэтыя цяжкія мінуты мелі і прысутныя жанчыны і мужчыны ў сэрцах сваіх.

Ад імя Пасольскага Клюбу пасол ахвяраваў на патрэбы 25 злот. і дзякаваў вучням за іх стараньне і за іх імкненьне да навукі, зазначаючы, што з усяе сілы будзе дабівацца легалізацыі школы і будзе яе падтрымліваць. Бацьком і маткам вучняў пасол расказаў аб тым, што ён быў у Слонімскага старасты і ў Школьнага Інспэктара. Інспэктар нібы даў слова — адмяніць кары. Бацькі і маткі былі рады, што пасол прасіў за іх п. Інспэктара, але ж... словам п. Інспэктара пакуль што ня вераць!

Разьвітаўшыся з прысутнымі, пасол пакінуў вёску.

Сьвята скончылася, але-ж памятка застанецца на доўга. Відаць, што народ, які аддаў свае галасы пры выбарах у Сойм за беларускіх паслоў, гатоў у кожын час аддаць за іх і жыцьцё сваё.

**Чамеравец.**

## Вясковы тэатр.

*(З Косаўшчыны).*

У нашай вёсцы 11 студня 1925 г. хатнім спосабам адбылася вечарына, на якой вясковыя хлопцы згулялі твор „Пільнуй Сваей Хаты“.

Як жаноцкія, так і мужчынскія ролі ігралі пераважна хлопцы. Пасьля спэктаклю дэклямаваліся вершы Янкі Купалы. Прысутных было ў хаце паўнюсенька.

Вечарынаю гасьці засталіся здаволены. Яна прынесла ў іх сялянскае шэрае жыцьцё шмат сьвежых хварб і новае сьвятло.

З сумам трэба адзначыць, што вечарына гэта адбылася нялегальна, бо ніхто з запужаных сялян не адважыўся падаць п. Старасце просьбы аб дазволе. **„Нялегальны“.**

## Прапажа газэтаў.

*(Івацэвічы,* Косаўскага п.).

З таго часу, як агентам, які выдае пісьмы і іншую карэспадэнцыю з тутэйшага паштовага аддзелу, стаўся нейкі п. Кідаўскі, беларускія газэты пачалі дахадзіць да нас надта неакуратна (гублюцца кудысь нумары). На нашы просьбы пашукаць такога і такога нумару, ад яго мы адтрымоўваем заўседы адзін і той самы адказ: „Niemam czasu“.

Гэта дае магчымасьць думаць, што ў прапажы нашай газэты вінават сам пан Кідаўскі. Канфіскуючы сыстэматычна беларускую газэту, п. Кідаўскі, відаць, ня хоча падумаць аб тым, як дорага яна кожнаму з нас селяніну. А, можа, ён у гэтым мае якуюсь „вышэйшую“ „шляхотную“ мэту, дзеля каторай так цынічна і вульгарна абходзіцца з намі? **Птушка.**

---

# Юрыдычныя парады.

1) **П. Кудліцкаму.** У справе заплаты за згарэўшы дом зьвярніцеся па гэткаму адрасу: *Dyrekcja Ubezpieczeń Wzajemnych, Wilno.*

2) **Беларусу Ѳ. Д-аву.** Трэба ведаць першы кантракт, а так нічога сказаць немагчыма.

3) **Язэпу Шырко.** Кожны ўзьбярэжны гаспадар мае права лавіць рыбу ў тэй часьці возера, якая прылягае да яго берагу, і ад гэтага берагу да палавіны возера. На ўсё возера ў такіх граніцах, як на рысунку, трэба было-б мець дакумант. Лепей пачынаць суд ня вам, але памешчыкам; тады яны павінны будуць паказаць дакумэнты, калі маюць.

4) **П—у.** Вы павінны даказаць, што брат ваш запраўды памер у Расеі.

Можна папрабаваць дастаць мэтрыку сьмерці брата цераз Польскага Консула; калі ёсьць хто знаёмы ў Расеі, то прасіць яго, каб дастаў мэтрыку, засьведчыў яе ў Польскага Консула і выслаў сюды заказным (з Расеі заказныя пісьмы сюды ходзяць); бяз мэтрыкі-ж нічога ня будзе.

---

# Усячына.

## 400-лецьце сьмерці Васко дэ Гамы.

24 студня ў сталіцы Партугаліі сьвяткуюць 400-лецьце сьмерці вялікага партугальскага мараходца Васко дэ Гамы, які адкрыў марскі шлях у Індыю.

У сьвяткаваньні прымаюць учасьце ўсе дзяржавы праз сваіх спэцыяльных прадстаўнікоў.

---



---

Рэдактар-Выдавец **Антон Пракапеня.**

Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.